№№151–152
(3690–3691)
28 верасня 2012 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

www.nv-online.info

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

*Якуб КОЛАС*

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

*Сяргей КАВАЛЕНКА:*

## «У калоніі я думаў, што далі тэрмін зняволення не мне, а маёй сям'і»

*26 верасня выйшаў на свабоду палітзняволены Сяргей Каваленка. Сяргей расказвае "Народнай Волі", як яму давялося жыць у няволі, што дапамагала падтрымліваць сілы падчас галадоўкі і чаму ён напісаў прашэнне аб памілаванні.*



Нагадаем, Сяргей Каваленка быў затрыманы 19 снежня 2011 года па абвінавачванні ва ўхіленні ад адбывання пакарання ў выглядзе абмежавання волі (арт.415 КК). Размова ідзе пра пакаранне, якое было вынесена апазіцыянеру ў маі 2010 года за вывешванне бел-чырвона-белага сцяга на галоўнай навагодняй ёлцы Віцебска.

У лютым гэтага года Каваленку асудзілі на два гады і адзін месяц пазбаўлення волі з адбываннем пакарання ў калоніі агульнага рэжыму.

Адразу пасля затрымання ён аб'явіў галадоўку пратэсту, якая доўжылася з невялікімі перапынкамі каля 2 месяцаў. У канцы чэрвеня Каваленка напісаў прашэнне аб памілаванні на імя Аляксандра Лукашэнкі.

**— Сяргей, вы чакалі гэтага вызвалення?**

— Прашэнне я напісаў яшчэ летам, але, натуральна, не верыў, што хутка апынуся на свабодзе. Але зараз у калонію прыехаў прадстаўнік Папы Рымскага, перадаў мне ад яго прывітанне. Я таксама папрасіў, каб Папа памаліўся за Беларусь, вельмі пазітыўная размова адбылася. І пасля гэтага мяне адразу вызвалілі. Прыбеглі, сказалі, што з Мінска ім даслалі ксеракопію дакумента аб маім вызваленні. І адфутболілі на волю.

**— У якія моманты ў няволі вам даводзілася складаней за ўсё?**

— Самае складанае было, што застаўся без сям'і. Я думаў, што гэта не мне далі тэрмін зняволення, а маёй маці, жонцы, маім дзецям. Зусім ні за што.

**— Доўгі час за кратамі вы працягвалі галадоўку...**

— Спачатку галадаў каля 20 дзён. Праўда, мяне хацелі падмануць. Адміністрацыя казала: "Мы не будзем мець нічога супраць тваёй акцыі пратэсту, калі будзеш есці раз на дзень". А другі раз каля двух месяцаў трымаў галадоўку. Нават больш. Мяне пасля толькі 20 дзён выводзілі з галадоўкі. Я тады 45 кілаграмаў быў. У мяне быў сіне-фіялетавы жывот і такія ж ногі. Цела ўжо проста адмірала. Я на лаўцы сядзець не мог, балюча было, бо засталіся адны косці таза. Там не тое што тлушчу не было, нават мяса. Бо піў жа толькі ваду. Але два разы па тры дні праводзіў наогул сухія галадоўкі — без вады і ежы. Я тады чарнеў, перад судом так было.

**— А калі вырашылі спыніць гэтыя акцыі пратэсту?**

— Пасля таго, як адвезлі ў псіхіятрычную бальніцу ў Навінкі. Там мне сказалі канкрэтна: "Ты адсюль ніколі не выйдзеш, калі не пачнеш есці". Абяцалі, што вызваляць па амністыі. Да таго ж многія ў лістах таксама прасілі, што не варта губіць жыццё. Жонка пісала, знаёмыя, блізкія... І я вырашыў усё ж такі яшчэ пажыць. Дзеля сям'і, дзеля дзяцей.

**— Як да вас ставіліся іншыя зняволеныя?**

— Шчыра скажу — па-рознаму. Кантынгент жа ў калоніі самы разнастайны. Нехта падтрымліваў, хтосьці правакаваў. Там жа ёсць і сексоты, якія на адміністрацыю працуюць. Дарэчы, я быў на "чырвонай зоне", дзе ўстаноўлены міліцэйскія парадкі, і там вельмі шмат "іх" людзей. Не ведаеш нават, чым дыхае чалавек. Але, паўтаруся, многія і падтрымлівалі.

**— Ціснулі на вас, каб напісалі прашэнне аб памілаванні?**

— Калі быў у штрафным ізалятары (турма ў турме), да мяне з гэтым восем дзён прыходзілі. Прасілі, каб напісаў прашэнне, уговорвалі, абяцалі розныя "прелести"... Я ім адразу сказаў: "Не буду пісаць, што прызнаю сваю віну, бо не вінаваты". Тады яны падышлі па-іншаму: "Не прызнавай сваю віну, а проста напішы: "Прашу мяне вызваліць". Думаю: я ж суддзяў і пракурораў прасіў мяне вызваліць, дык чаму б не папрасіць аб гэтым і яшчэ аднаго чыноўніка?

**— Сяргей, як ваша здароўе зараз?**

— Усё больш-менш добра. Я ў няволі і кросы бегаў, падцягваўся, адціскаўся ад падлогі. Трэба было набірацца сіл, бо, напрыклад, печань пасля галадоўкі аднаўляецца менавіта дзякуючы рухам. У выніку набраў вагу і зараз маю 91 кілаграм. У два разы больш стаў важыць, чым падчас галадоўкі.

**— Як гэта ўдалося?**

— Напэўна, Бог дапамагае. Ды і арганізм моцны аказаўся.

**— Зараз аб нечым шкадуеце?**

— Аб чым шкадаваць?! Лічу, што ўсё рабіў правільна. І нават у турме ёсць свае плюсы. Я шмат што ўбачыў, шмат што перааацаніў... У тым ліку і ў сваіх учынках.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

З-ЗА КРАТАЎ

### Карцар. Галадоўка

Дзмітрый Дашкевіч трымае галадоўку на знак пратэсту супраць цкавання ў Мазырскай калоніі.

Пра гэта паведаміла Анастасія Палажанка, нявеста палітвязня, якая разам з адвакатам наведала Мазыр.

Дзмітрый перадаў, што спыніць галадоўку толькі тады, калі турэмнае начальства перастане яго цкаваць і пачне да яго адэкватна ставіцца, а таксама папросіць прабачэння за ранейшыя абразы і пагрозы.

Маладзёжныя актывісты ў чацвер распаўсюдзілі спецыяльны прэс-рэліз, у якім апісваецца, што, па іх звестках, адбываецца ў Мазыры. *"Мы не даем ацэнку паводзінам адміністрацыі Мазырскай калоніі — гэтым няхай займаецца Генпракуратура, у якую будуць скіраваны скаргі па кожным з абуральных інцыдэнтаў",* — гаворыцца ў паведамленні.

Па звестках паплечнікаў Дашкевіча, праблемы ў Мазырскай калоніі пачаліся ў першы ж дзень, калі "праваслаўны" начальнік калоніі пачаў перавыхоўваць вязня-пратэстанта. Далей — болей. Зараз Дашкевіч у карцары і трымае галадоўку на знак пратэсту супраць шматлікіх абраз і спроб цкавання.

Словы падтрымкі Дзмітрыю і словы "падзякі" кіраўніку калоніі Юрыю Збароўскаму можна скіраваць на адрас: Мазыр-11, ПК-20, індэкс 247760.

САЛІДАРНАСЦЬ

### Папа Рымскі перадаў вітанні беларускім палітвязням

Прадстаўнік Ватыкана — апостальскі нунцый у Беларусі, арцыбіскуп Клаўдзіа Гуджэроці сустрэўся з Паўлам Севярынцам.

Сустрэча адбылася ў Купліне, дзе Севярынец адбывае пакаранне пасля прэзідэнцкіх выбараў 2010 года. Яна прайшла ў кабінеце начальніка спецкамендатуры. Праходзіла сустрэча ў рамках наведвання нунцыем беларускіх палітвязняў.

Гуджэроці выказаў Севярынцу "словы падтрымкі і ўвагі".

Яны "пагаварылі пра палітвязняў". Севярынец папрасіў арцыбіскупа паспрыяць далучэнню касцёла да кампаніі стварaемай партыі БХД "За сямейныя каштоўнасці", у рамках якой плануецца ўнесці змены ў закон аб ахове здароўя.

Нунцый паведаміў, што да зняволенага ў Бабруйску праваабаронцы Алеся Бяляцкага днямі змог трапіць каталіцкі святар.

Гуджэроці перадаў вітанні беларускім палітвязням ад Папы і паведаміў, што ў кастрычніку збіраецца сустрэцца ў Рыме з Бенедзіктам XVI.

Севярынец "выказаў падзяку апостальскаму нунцыю і ўсяму акрэдытаванаму ў Беларусі дыпкорпусу за візіт і ўвагу".

АФІЦЫЙНА

### ...але што яны вырашаюць?

У Беларусі сфарміравана не толькі Палата прадстаўнікоў, але і верхняя палата Нацыянальнага сходу — Савет Рэспублікі. Дэпутаты мясцовых Саветаў абралі ў яе 56 прадстаўнікоў: па восем ад кожнай вобласці і ад горада Мінска. Яшчэ восем сенатараў прызначыць кіраўнік дзяржавы па сваёй квоце.

Сярод тых, хто ўжо стаў членам Савета рэспублікі, — пяць кіраўнікоў абласцей (акрамя Сямёна Шапіры), кіраўнік Мінска Мікалай Ладуцька, цяперашні старшыня Савета Рэспублікі Анатоль Рубінаў, які ўпарта не сыходзіць на пакой, нягледзячы на 73-гадовы ўзрост. З прадстаўнікоў бізнесу можна прыгадаць старшыню савета дырэктараў ААТ "Амкадор" Аляксандра Шакуціна, які так няўдала паўдзельнічаў у фінансаванні беларускага нацыянальнага адбору на "Еўрабачанне".

Вяртаюцца ў палітычную прастору і знаёмыя твары — асобы, якія некаторы час "марынаваліся" без дзяржаўных пасад. Так, членам Савета Рэспублікі абраны былы міністр замежных спраў, у розны час — пасол Беларусі ў Англіі, Польшчы, Францыі, Бельгіі, адзін з самых вопытных беларускіх дыпламатаў Уладзімір Сянько. Апошнім часам ён працаваў на сціплай пасадзе памочніка дырэктара прадстаўніцтва расійскай кампаніі "Е-інжынірынг".

Нагадаем, што на зыходзе сваёй дыпламатычнай кар'еры Сянько напісаў рэзкі ліст, адрасаваны кіраўніцтву Еўрапейскага Саюза, у якім абвінаваціў ЕС у невыкананні абавязкаў і палітыцы двайных стандартаў. Сістэматычны татальны ціск беларускіх улад на дэмакратычныя свабоды Уладзімір Сянько патлумачыў "нацыянальнымі рысамі і асаблівасцямі Беларусі". Тым не менш напярэдадні апошніх прэзідэнцкіх выбараў менавіта Сянько называлі адным з ініцыятараў паляпшэння адносін Беларусь—Еўропа. Праўда, пасля выбараў, якія скончыліся скандальным разгонам дэманстрацыі ля Дома ўрада і арыштам амаль усіх сапернікаў Аляксандра Лукашэнкі, Сянько быў адкліканы з Бруселя ў Мінск і з тых часоў на публіцы не з'яўляўся.

**Ірына МАЛЬЦАВА.**

ТЫМ ЧАСАМ

### «Не паложана!»

Згодна з беларускім заканадаўствам, кандыдаты ў Савет Рэспублікі, як і кандыдаты ў Палату прадстаўнікоў, павінны прадаставіць дэкларацыю аб даходах і маёмасці. Пра заробкі дэпутатаў ніжняй палаты беларусы маглі даведацца наўпрост на выбарчых участках. А вось дзе можна ўбачыць, напрыклад, колькі атрымаў за апошні год адзін з самых багатых беларусаў Аляксандр Шакуцін, які трапіў у Савет Рэспублікі ад Мінска?

Змест дэкларацый агалошваецца, растлумачыў логіку дзяржавы сакратар ЦВК Мікалай Лазавік. Але... Паколькі ў выбарах у Палату прадстаўнікоў бяруць удзел амаль усе беларусы, то і дэкларацыі былі выстаўлены на агульны агляд. *"А паколькі членаў Савета Рэспублікі выбіраюць дэпутаты мясцовых Саветаў, то і з дэкларацыямі змаглі азнаёміцца толькі яны",* — расказаў Лазавік.

АКТУАЛИИ



*Светлана КАЛИНКИНА*

## Услужливый дурак

Если европейских наблюдателей приглашают на выборы, а потом главе миссии БДИПЧ ОБСЕ не позволяют видеть, правильно ли ведется подсчет голосов, — это абсурд, который хотелось бы как-то понять.

Первая версия — про дураков: на избирательном участке не знали, кто к ним приехал. То есть получается, что спецслужбы объявили выборам бойкот, на все забили, реализовав наконец свою давнюю мечту заняться теми, кем раньше занимался ОБХСС, — довольными режимом. Гуляйте себе, злые западники, заходите, куда хотите, коль с вас брать нечего!..

Это с одной стороны.

А с другой — Антонио Милошоски, прежде чем его к наблюдению допустили, комиссии беджик должен был предъявить. На котором четко и ясно написано, кто он такой, этот интеллигент в очках. Можно спорить, нужно ли нашим избирательным комиссиям уметь считать, но читать, наверное, они все-таки умеют...

В общем, версия сомнительная.

Вторая озвученная гипотеза — про умных. Нашей власти, мол, выгодно, чтобы в Беларуси был парламент, не признанный Западом. И вообще конфронтация — лучшая для нее среда обитания. Потому что тогда и враг есть, на которого можно все списать, и напрягаться с проблесками демократизации не требуется, поскольку есть большое опасение, что любая маленькая трещина режима может дать большую течь. И далее в том же духе.

Очень лестной для Александра Лукашенко выглядит эта версия, так как базируется на мифе о его крутизне, однако я бы с подобными комплиментами не торопилась. Просто потому, что если бы версия была правильной, то не требовалось бы никаких сложных построений. Ну, не приглашали бы мы европейских наблюдателей на свои выборы, как изначально грозились, — вот и вся конструкция.

Боюсь, самой близкой к истине в нашей ситуации будет третья версия — про сегодняшних белорусов.

Конечно, Лукашенко очень хотел, чтобы эти выборы были признаны. И наверняка он планировал сделать как-нибудь так, чтобы ничего серьезно в белорусских выборах не менять, но чтобы у западных наблюдателей остались от увиденного самые лучшие впечатления. В конце концов, это ведь не его выбирали, не его уровни поддержки подсчитывали. Ну увидел бы глава миссии ОБСЕ, придя на участок, что какой-то кандидат Пупкин проиграл кандидату Жупкину. И что? Даже если этот Пупкин — кандидат власти, так и Милошоски не Геката многоглавая, везде не поспеет. На одном участке Пупкин проиграл, на других — выиграл. Но обезоружили бы главу суровых наблюдателей ОБСЕ, позволив видеть подсчет, даже не жертвуя пешкой.

Так ведь нет! Надо было держать оборону, будто охраняешь главные секреты Родины! Надо было отгонять главу миссии от стола с бюллетенями, надо было устраивать все так, чтобы он, не дай Бог, не подсмотрел, сколько там голосов на самом деле отдано за несчастного Пупкина...

Надо было так накрутить провластных наблюдателей, чтобы они на глазах у всех вырвали у председателя участковой комисии протокол, засвидетельствовавший, что выборы не состоялись... И чтобы потом с криками "Милиция-полиция!" прямо до окружной комиссии за этим протоколом неслись и наблюдатели ОБСЕ, и наши активисты... И чтобы уже в окружкоме эту — на самом деле давно озвученную на аудио и видео — бумажку прятали, переписывали, меняли...

Ну нет тут никакого здравого смысла, никакой логики, никакого предварительного умысла.

Это экспромт. Это ум такой.

Просто у нас выстроена такая система государственного управления, что теперь — что бы там Лукашенко ни планировал в политике, в экономике, в спорте — обязательно найдется какой-нибудь осел, который перекурочит все планы, желая выслужиться. И все потому, что суть системы проста: чтобы каждый большой и маленький винтик послушно выполнял доведенную задачу-минимум. Иначе будет наказан.

Председателю избирательной комиссии велено дать нужный результат — и хоть Иисус Христос приди на участок — он отодвинет его от бюллетеней за кадку с пальмой. Тренеру скажут обеспечить медаль — так расстарается, что покалечит спортсмена тренировками, сам подбросит в пищу запрещенные таблетки. Главе Нацбанка дадут задание удерживать курс рубля — до обвала, до финансовой катастрофы держать будет. Скажут военным везти технику на парад к главнокомандующему — оголят границы, "слепыми" дежурные дивизионы оставят, но повезут...

Это и есть по-белорусски, это то, что наша власть старательно выстраивает, то, без чего система перестанет существовать, — каждый винтик, не думая, выполняет свою задачу-минимум. Правда, выполняет так, что услужливый дурак становится опаснее врага.

ПОСТСКРИПТУМ

*Маттео МЕКАЧЧИ, председатель Комитета по правам человека ПА ОБСЕ:*

## «Народ Беларуси заслуживает лучшего»

Мы были приглашены в Беларусь для того, чтобы сообщить, соблюдаются ли гражданские и политические права граждан Беларуси в соответствии с международными обязательствами страны в области демократичных выборов.

Во время нашего пребывания, в ходе встреч с представителями властей, гражданского общества, СМИ, с обычными гражданами, с которыми мы беседовали на избирательных участках по всей стране, мы сталкивались с добрым отношением, гостеприимством и получали ценную информацию. Но, к сожалению, когда пришло время оценивать общие итоги выборов, мы были вынуждены обратить внимание на то, что эти выборы не были ни демократичными, ни конкурентными.

Свобода выборов зависит от того, имеют ли граждане возможность участвовать в них, свободно выражать свое мнение и осуществлять свое право на свободу собрания и свободу ассоциации, в частности, создавать политические партии. Мы не увидели этого в ходе прошедшей кампании, и это вызвало наше разочарование.

В официальном заявлении, которое опубликовано на сайте www.osce.org, сказано, что количество кандидатов, выдвигаемых партиями, увеличилось, но видные политические деятели, которые могли бы сыграть роль в этой избирательной кампании, находились в тюрьме или же получили отказ в регистрации в качестве кандидатов из-за своей судимости или же из-за каких-то формальных причин. В конечном итоге это уменьшило конкуренцию и сузило возможность выбора для избирателей.

Мы были в Беларуси в 2010 году, когда некоторые из этих людей были арестованы и посажены в тюрьму, и мы огорчены тем, что их голоса и голоса других не стали частью этой избирательной кампании.



**Об авторе**

***Маттео Мекаччи**. Специальный координатор миссии краткосрочных наблюдателей ОБСЕ. Является председателем Комитета по правам человека ПА ОБСЕ, а также депутатом итальянского парламента.*

Несмотря на все недостатки, которые мы обнаружили в ходе этих выборов, мы по-прежнему заинтересованы в сотрудничестве с белорусскими властями для принятия конкретных шагов в деле осуществления избирательной и других реформ в соответствии с их международными обязательствами.

В нашем заявлении мы отмечаем, что правовые рамки, существующие в Беларуси, не полностью гарантируют проведение выборов в соответствии с обязательствами, взятыми на себя страной.

Подписи, подаваемые для регистрации кандидатов, проверялись непоследовательно и произвольно. Рассмотрение подаваемых жалоб не было объективным, что привело к сокращению круга кандидатов.

Положительным моментом стало то, что впервые в истории парламентских выборов Беларуси были организованы теледебаты. Однако дебаты должны были быть показаны в записи, а выступления кандидатов, представляющих оппозиционные партии, были сняты с эфира из-за того, что они призывали избирателей бойкотировать выборы.

Несмотря на то что зарегистрированным партиям была предоставлена возможность выдвигать кандидатов во всех округах вне зависимости от того, имеются ли у них региональные структуры, зарегистрированные в данном конкретном округе, другие изъяны имеющейся системы привели к тому, что эти выборы не могли окончиться формированием плюралистичного парламента.

Партии и объединения, поддерживающие власти, имели более 96% мест в избирательных комиссиях.

Несмотря на то что наши наблюдатели оценили процесс голосования в основной день выборов в целом позитивно, положение значительно ухудшилось во время подсчета голосов. На избирательном участке, где я лично наблюдал подсчет голосов, никто из членов участковой комиссии не объявлял вслух о том, что написано в бюллетенях, и не демонстрировал, к примеру, что вот этот конкретный бюллетень в данной пачке был за конкретного кандидата... Отсутствие четко определенных процедур подсчета вкупе с этой непрозрачностью означало, что честный подсчет не мог быть гарантирован.

В завершение я могу сказать, что мы все знаем, что народ Беларуси заслуживают лучшего — не только в отношении собственных демократических устремлений, но и в отношении возможности возвращения их страны к соблюдению международных обязательств, которые страна добровольно взяла на себя при вступлении в ОБСЕ.

ПАЛІТКУХНЯ

### Апазіцыя адмовіцца ад кааліцыйных пагадненняў

*Лідары беларускай апазіцыі вырашылі адмовіцца ад кааліцыйных пагадненняў і зоймуцца распаўсюджваннем інфармацыі пра тое, як адбываліся выбары, і пра палітычных вязняў.*

Прадстаўнікі сямі дэмакратычных суб'ектаў заявілі пра *"стомленасць ад пустых дакументаў, якія да таго ж не выконваюцца пасля іх падпісання".* Замест гэтага актывісты зарэгістраваных і незарэгістраваных партый і грамадскіх арганізацый: АГП, стварaемай партыі БХД, "Беларускага руху", зарэгістраванага ў Чэхіі "Маладога фронту", прафсаюза РЭП, Рады інтэлігенцыі ды кампаніі "Еўрапейская Беларусь" — вырашылі правесці супольную акцыю інфармавання беларускага грамадства. Прычым сваю кампанію лідары апазіцыі плануюць распачаць з беларускай сталіцы. Дэмакраты падзеляць Мінск на сем раёнаў, у кожным з якіх за распаўсюджванне інфармацыі будзе адказваць канкрэтная палітычная сіла. Вынікі кампаніі апазіцыянеры плануюць падвесці праз месяц.

### Пенсіі павысяць у лістападзе

Чарговы пераразлік працоўных пенсій будзе праведзены ў лістападзе. Як паведаміў намеснік міністра працы і сацыяльнай абароны Аляксандр Румак, пераразлік будзе праходзіць зыходзячы з росту сярэдняй зарплаты. Таксама ў сувязі з ростам бюджэту пражытачнага мінімуму будзе праведзены пераразлік мінімальных працоўных пенсій, сацыяльных пенсій, надбавак і даплат да іх.

### Міністр аховы здароўя за платныя візіты

Васіль Жарко лічыць, што "кошт" талончыка можа быць сімвалічны.

— *Я лічу, што можна было б увесці нейкую сімвалічную плату за наведванне ўрача*, — заявіў кіраўнік медведамства падчас онлайн-канферэнцыі на сайце БЕЛТА. — *Можа быць, не з першага разу, можа, не для ўсіх катэгорый хвароб. Вядома, хранічныя і сур'ёзныя хворыя, а таксама дзеці павінны абслугоўвацца бясплатна. Аднак не зразумела, як гэта аформіць у адпаведнасці з нашай Канстытуцыяй, бо паводле яе кожны чалавек у нас у краіне мае права на бясплатную медыцынскую дапамогу.*

Як вядома, прапанову зрабіць платнымі візіты ў паліклініку яшчэ ўвесну агучыў намеснік прэм'ер-міністра Анатоль Тозік. Ён нават назваў, якім бы мог быць "кошт" талончыка — 5 тысяч рублёў. Але ініцыятыву Тозіка грамадскасць раскрытыкавала, назваўшы яе супрацьзаконнай.

Тое, што высокапастаўленыя чыноўнікі вяртаюцца да тэмы платных візітаў да ўрача — не выпадкова. Беларусь у лідарах па наведвальнасці насельніцтвам паліклінік. На аднаго беларуса прыходзіцца ў сярэднім 13 наведванняў урача ў год. Для параўнання: у СНД — 8,6 у год, у Еўрасаюзе — 6,2. Паліклінікі перагружаны.

Але, можа быць, ёсць іншыя рэцэпты ад чэргаў у паліклініках, чым платныя прыёмы? Васіль Жарко, дарэчы, аб адным з іх казаў:

— *Мы зараз сур'ёзна разглядаем кадравую сітуацыю ў нашых лячэбных установах, пераглядаем штаты. У нас 54 тысячы ўрачоў. З іх лячэбнай работай займаюцца 32 тысячы. Гэта нармальны нарматыў — такі ж, як і ў Еўропе. Аднак атрымаўся перакос у бок стацыянараў, а ў амбулаторна-паліклінічным звяне, дзе адбываецца першы кантакт хворага з урачом, у нас не хапае кадраў. Мы спрабуем гэта выправіць.*

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

Народная Воля http://www.nv-online.info
28 ВЕРАСНЯ 2012 г.

ДЕМОКРАТИЯ ПО-БЕЛОРУССКИ

# Член окружной комиссии требует не признавать итоги выборов

*Окружные комиссии утверждают итоги выборов, даже не видя всех протоколов с участков и не разбирая жалобы наблюдателей. Тем не менее член окружной комиссии №98 в Минске Сергей Возняк оказался единственным, кто проголосовал против такой "демократии". И приложил к протоколу комиссии свое "особое мнение". Для истории и судов.*

Приводим текст этого документа.

**Особое мнение С.В.Возняка к протоколу заседания №11 от 24 сентября 2012 года окружной избирательной комиссии Грушевского избирательного округа № 98**

Заявляю свое несогласие с решением окружной избирательной комиссии о признании выборов в Грушевском избирательном округе №98 состоявшимися и избрании В.А.Алексеенко депутатом Палаты представителей Национального собрания Республики Беларусь.

Считаю, что выборы в Грушевском избирательном округе №98 прошли с грубыми нарушениями Избирательного кодекса Республики Беларусь и международных обязательств по организации выборного процесса, добровольно взятых на себя Республикой Беларусь.

Свое мнение обосновываю следующими аргументами.

При формировании окружной и участковых избирательных комиссий Президиумом Минского городского Совета депутатов, Минским городским исполнительным комитетом и администрациями районов города Минска был нарушен баланс интересов всех политических субъектов выборного процесса. В состав окружной избирательной комиссии был включен только один представитель оппозиционной политической партии (из 13), а в составе 46 участковых избирательных комиссий вообще не было ни одного представителя оппозиционных политических партий. Плюс к тому состав участковых избирательных комиссий практически повсеместно был сформирован по корпоративному принципу — когда руководителями комиссий являются руководители соответствующих предприятий, организаций, учреждений, а членами комиссий — их непосредственные подчиненные. Такой подход к формированию избирательных комиссий создал предпосылки для недобросовестной организации и проведения выборного процесса и фальсификаций при подсчете голосов и подведении итогов голосования.

Решением Минского городского исполнительного комитета были существенно сужены возможности кандидатов в депутаты, их доверенных лиц и активистов команд по организации и проведению массовых мероприятий с избирателями вне помещений в период ведения предвыборной агитации. Местами для проведения таких мероприятий были определены лишь площадки возле расположенных на территории избирательного округа универсамов. Окружная избирательная комиссия — вместо того, чтобы встать на защиту интересов кандидатов в депутаты и избирателей и добиться максимально возможного расширения перечня мест, разрешенных для уличной агитации, — вопреки моему протесту дала свое согласие на данное решение Мингорисполкома.

В период с 18 по 22 сентября 2012 года вопреки положению Избирательного кодекса о том, что досрочное голосование предполагает возможность волеизъявления избирателей, которые в день выборов не имеют возможности находиться по месту своего жительства (статья 53 Избирательного кодекса), состоялось массовое досрочное голосование, в котором, по официальным данным участковых комиссий, приняло участие 21,6 процента избирателей. В некоторых местах (например, в общежитиях) обеспечена почти 100-процентная явка избирателей на досрочное голосование. Это достигнуто с помощью давления на избирателей, применения административного ресурса, что является нарушением провозглашенного в статье 5 Избирательного кодекса права избирателя самостоятельно решать, участвовать ему в выборах или нет.

Окружной избирательной комиссией было отклонено мое предложение об определении порядка прозрачного и открытого подсчета голосов на избирательных участках. Суть этого предложения заключалась в том, чтобы каждый член участковой избирательной комиссии обязательно увидел каждый избирательный бюллетень — за какого кандидата подан голос избирателя, или избиратель проголосовал против всех кандидатов, или бюллетень является недействительным. Каждый бюллетень предлагалось озвучивать и демонстрировать присутствующим на участке наблюдателям. Принятие такой процедуры делало подсчет голосов максимально открытым и сводило бы к минимуму возможности фальсификаций. Отклонив предложенный мною проект соответствующего Решения, окружная комиссия создала условия, когда в реальном подсчете всех избирательных бюллетеней не участвовали все члены участковых избирательных комиссий. На избирательном участке №246, где я наблюдал за подсчетом голосов 23 сентября 2012 года, этот процесс фактически был отдан на откуп двум членам комиссии. Не понятно, на каком основании члены участковых комиссий подписывали протоколы об итогах голосования, если все они не видели и не считали все бюллетени избирателей, оказавшиеся в ящиках для голосования. Это ставит под сомнение достоверность данных, изложенных в протоколах участковых избирательных комиссий о количестве голосов, поданных за того или иного кандидата.



На участке №246 23 сентября 2012 года был выявлен факт грубого нарушения статьи 54 Избирательного кодекса, определяющей порядок голосования по месту нахождения избирателя. Члены участковой избирательной комиссии пошли с переносным ящиком для голосования не только к тем избирателям, которые подали соответствующие заявки в комиссию, но и предлагали незаконно проголосовать избирателям, которые заявок на голосование на дому не подавали. Нет сомнений, что сделано это было только с одной целью — обеспечить незаконным способом 50-процентную явку избирателей, необходимую для признания выборов по округу состоявшимися. Члены участковой комиссии, отправившиеся организовывать голосование на дому, имели с собой бюллетени не только для избирателей, подавших заявку на голосование на дому, но и "запасные" бюллетени для тех избирателей, которые просьб о голосовании на дому не высказывали. Таких избирателей, которых членам комиссии удавалось уговорить принять участие в незаконном голосовании, тут же включали в список избирателей, якобы высказавших просьбу о голосовании на дому. Фактически сам список теперь является сфальсифицированным. К тому же Избирательный кодекс требует, чтобы этот список был закрыт и подписан председателем или секретарем участковой комиссии до того, как не менее двух членов комиссии отправятся проводить голосование избирателей на дому. В нашем случае очевидно, что и эта законодательная норма была нарушена. Кроме того, избирателю Д.С.Ковалгину, который не подавал заявление на голосование на дому, но которому члены комиссии позволили участвовать в незаконном голосовании, на руки был выдан бюллетень, на оборотной стороне которого отсутствовали подписи не менее чем двух членов участковой избирательной комиссии. Это прямое нарушение статьи 72 Избирательного кодекса, которое позволяет сделать вывод о том, что руководству участковой комиссии было выдано неучтенное количество дополнительных бюллетеней, с помощью которых можно было сфальсифицировать как явку избирателей, так и распределение голосов избирателей, поданных за того или иного кандидата в депутаты.

Избиратель Д.С.Ковалгин 23 сентября 2012 года подал жалобы на действия членов участковой комиссии, проводивших незаконное голосование по месту нахождения избирателей, в участковую и окружную избирательные комиссии. Вопреки требованию статьи 49 прим. Избирательного кодекса, которая устанавливает, что обращения, поступившие в комиссию в день выборов, рассматриваются немедленно, председатель окружной избирательной комиссии Т.А.Кравченко отказалась созывать заседание комиссии по рассмотрению жалобы. Она проигнорировала требование Избирательного кодекса даже тогда, когда я, член окружной комиссии, подал ей письменное заявление с требованием о немедленном созыве заседания комиссии для рассмотрения поступившей в день выборов жалобы избирателя. Аналогичное нарушение совершено и руководством участковой избирательной комиссии №246. Здесь также не было проведено немедленное рассмотрение поступившей жалобы, хотя все члены комиссии находились весь день на избирательном участке. Имитация рассмотрения жалобы Д.С.Ковалгина состоялась в участковой избирательной комиссии лишь после 20.00, когда уже были вскрыты ящики для голосования и шел подсчет голосов. Заявитель на рассмотрение жалобы приглашен не был, объяснений членов комиссии, проводивших незаконное голосование на дому, заслушано не было. К тому же было грубо нарушено требование части 3 статьи 55 Избирательного кодекса, в которой прямо говорится, что подсчет голосов избирателей должен проводиться без перерыва до получения результатов. В описываемом случае председателем участковой комиссии была остановлена работа членов комиссии по подсчету голосов для формального рассмотрения жалобы, а потом процедура подсчета снова была возобновлена. Сделано это было по телефонному звонку из вышестоящей инстанции. Как человек, находившийся все это время на избирательном участке и наблюдавший происходящее, могу предположить, что к очередному нарушению Избирательного кодекса участковую комиссию подтолкнул кто-то из руководства окружной избирательной комиссии (с большой долей вероятности — председатель комиссии Т.А.Кравченко).

24 сентября 2012 года на заседании окружной избирательной комиссии я настойчиво объяснял членам комиссии, что подведение итогов выборов и объявление результатов голосования должно быть осуществлено только после рассмотрения всех поступивших в комиссию обращений, заявлений и жалоб. Я убеждал членов комиссии, что жалоба избирателя Д.С.Ковалгина ставит под сомнение законность проведения выборов на целом избирательном участке. Не рассмотрев ее, не проверив все изложенные факты, комиссия не вправе делать заключение о соответствии выборного процесса в округе требованиям Избирательного кодекса Республики Беларусь. Однако и это было проигнорировано. Я оказался единственным членом комиссии, проголосовавшим против признания выборов состоявшимися до рассмотрения всех жалоб и заявлений, поступивших в комиссию.

24 сентября 2012 года члены окружной избирательной комиссии большинством голосов (12 — "за", я один "против") проголосовали за признание выборов в округе состоявшимися в условиях, когда большинство из них даже не видели итоговых протоколов всех 46 участковых избирательных комиссий. Мое замечание о том, что члены комиссии не могут голосовать за цифры итогового протокола по округу, не проверив итоговые протоколы участковых комиссий, было также проигнорировано. Фактически: как члены участковых комиссий подписывали итоговые протоколы, не участвуя в подсчете каждого избирательного бюллетеня, так и члены окружной комиссии подписали итоговый протокол без личной проверки протокола каждой участковой комиссии.

Все изложенное выше свидетельствует о грубом нарушении законодательства при проведении выборов депутата Палаты представителей Национального собрания Республики Беларусь в Грушевском избирательном округе №98. Это позволяет мне считать данные выборы недействительными, а объявленного депутата — нелегитимным.

**Сергей Витальевич ВОЗНЯК,
член окружной
избирательной комиссии.**

ТЕМ ВРЕМЕНЕМ

## *Представитель ОГП голосовал, как и представители власти*

Представитель ОГП **Юрий Сеноженко**, включенный в состав одной из окружных комиссий Могилева, проголосовал за утверждение итогов выборов. Несмотря на то что независимые наблюдатели заявили, что ни на одном из могилевских округов не было честного подсчета голосов, представитель оппозиционной партии решил не обращать на это внимания.

Председатель Могилевской областной организации ОГП **Владимир Шанцев** считает ошибкой выдвижение в состав избирательной комиссии 87-го округа своего однопартийца Юрия Сеноженко. Как сообщил политик БелаПАН, Сеноженко, как и все члены комиссии, проголосовал за утверждение итогов выборов, озвученных председателем Александром Кожемякиным. Согласно официальным данным, в округе проголосовало 71,6% избирателей. В свою очередь Владимир Шанцев заявил, что эти данные не соответствуют действительности.

*"Мы вели активную работу по бойкоту выборов и, в принципе, не ошиблись в этой стратегии",* — заявил Шанцев. По его словам, бойкот состоялся.

*"Если верить тем данным, которые были на участках, где власть не могла применить административный ресурс, то там явка реальная не превышала 25—26%. Лично я был на пяти участках — и на подсчете голосов был, и с урнами ходил в округе №87, где сам был кандидатом в депутаты",* — сказал глава партийной организации.

Что касается признания Юрием Сеноженко официальных итогов выборов по данному округу, то, по мнению Шанцева, однопартиец, будучи директором фирмы, в момент голосования больше думал о людях, которые с ним работают и которые могут остаться без работы. *"Мы его зря выдвигали. Нельзя выдвигать директоров фирм на такие участки, где может пострадать не только директор фирмы, но и люди, которые там работают. Мы знаем, в какой стране живем",* — сказал Шанцев.

Сам Сеноженко отказывается комментировать свое решение признать официальные итоги выборов по 87-му округу.

Напомним, что в свое время представитель ОГП **Сергей Альфер**, будучи членом Минской городской избирательной комиссии, также не стал спорить и одобрил итоги голосования.

АФІЦЫЙНА

## *У 2013 годзе грашовыя даходы насельніцтва вырастуць на 6,5%?*

*Днямі Аляксандр Лукашэнка ўказам №418 зацвердзіў важнейшыя параметры прагнозу сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі на 2013 год, а ўказам №419 — асноўныя напрамкі грашова-крэдытнай палітыкі.*

Як паведаміла прэс-служба кіраўніка дзяржавы, дакументамі запланаваны прырост ВУП на 8,5%, прадукцыйнасці працы (па валавым унутраным прадукце) — на 9,3%, экспарту тавараў і паслуг — на 15,2%. Сальда знешняга гандлю таварамі і паслугамі чакаецца станоўчае на ўзроўні 0,7% да ВУП, зніжэнне энергаёмістасці валавога ўнутранага прадукту на 7%.

Прыцягненне прамых замежных інвестыцый на чыстай аснове прагназуецца ў аб'ёме 4,5 млрд долараў, увод у эксплуатацыю жылля адновіцца — 6,5 млн кв. метраў.

Мяркуецца, што дасягненне параметраў, вызначаных указам, *"дазволіць забяспечыць якасны ўзровень жыцця насельніцтва".* Рэальныя наяўныя грашовыя даходы насельніцтва ў 2013 годзе павінны вырасці на 6,5% да ўзроўню гэтага года.

Прагназуецца, што стаўка рэфінансавання да канца 2013 года складзе 13—15% гадавых (пры росце спажывецкіх цэн на 12%), патрабаванні банкаў да эканомікі ўзрастуць на 17—20% і складуць 45—46% да валавога ўнутранага прадукту.

## *Паслугі ЖКГ не падаражэюць*

*У бліжэйшы час у Беларусі не плануецца павелічэнне тарыфаў для насельніцтва на жыллёва-камунальныя паслугі, заявіў намеснік міністра жыллёва-камунальнай гаспадаркі Беларусі **Генадзь Трубіла.***

*"Пакуль пераглядаць тарыфы на паслугі ЖКГ у краіне не плануецца. Кошты ў жыроўках зменяцца толькі на колькасць спажытага грамадзянамі цяпла, калі наступіць ацяпляльны перыяд",* — паведаміў Трубіла журналістам.

## *У армію забяруць і гіпертонікаў, і язвеннікаў*

*Скараціўся спіс захворванняў, па якіх прызыўнікі прызнаюцца непрыдатнымі да вайсковай службы.*

Як паведаміў карэспандэнту агенцтва "Мінск-Навіны" ўрач-эксперт аддзела прызыву на ваенную службу ваеннага камісарыята Мінска **Віктар Вятчынкін**, з 1 жніўня 2012 года ўступіла ў сілу пастанова Міністэрства абароны і Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь №33/85. Цяпер у войска могуць заклікаць як гіпертонікаў, так і тых, хто пакутуе на скаліёз другой ступені — з вуглом адхілення да 10 градусаў у ляжачым становішчы. Няма супрацьпаказанняў і па язвавай хваробе, але толькі ў выпадках, калі няма перфарацыі і крывацёку, а абвастрэнні здараюцца не часцей за адзін раз у год і не патрабуюць працяглага лячэння. Такім прызыўнікам адкрыта дарога ў танкавыя падраздзяленні, на службу ў складзе экіпажаў баявых машын, пускавых установак, па ахове аб'ектаў Узброеных сіл, у злучэнні і вайсковыя часці радыяцыйнай, хімічнай і біялагічнай абароны, зенітна-ракетных войскаў і іншыя.

## *«Катлоўка» на рамонце*

*Да 4 кастрычніка ў пункце пропуску "Катлоўка" на беларуска-літоўскай мяжы ў Астравецкім раёне ў сувязі з заменай дарожнага пакрыцця будуць цяжкасці з рухам.*

Пра гэта паведаміў памочнік начальніка Смаргонскай пагранічнай групы **Аляксандр Колабаў.**

У сувязі з работамі, якія праводзяцца ў "Катлоўцы", памежнікі рэкамендуюць для перасячэння дзяржаўнай мяжы выкарыстаць пункты пропуску "Каменны Лог" і "Урбаны".

НУ І НУ!

# Былы кіраўнік Гомеля Віктар Піліпец «уваскрос» у турме

*Гэта ж трэба — давялося "пахаваць" чыноўніка, каб улады нарэшце абнародавалі афіцыйную інфармацыю пра яго лёс!*



З-за інфармацыйнага вакууму, створанага вакол імя нядаўняга кіраўніка "паўднёвай сталіцы Беларусі", пра якога пасля адстаўкі ў жніўні гэтага года было мала што вядома (з'яўляліся паведамленні пра арышт, потым інфармацыя афіцыйна абвяргалася, але ж сам Піліпец некуды знік і на новым месцы працы не з'яўляўся), па Гомелі распаўзліся самыя злавесныя чуткі. У апошнія дні казалі, што ён быццам здзейсніў самагубства і нават ужо пахаваны...

Вечарам у аўторак у рэдакцыю "Народнай Волі" звярнуўся выкладчык гомельскага ўніверсітэта, які прасіў не называць яго імя, і распавёў, што на працягу дня ад самых розных людзей (і калег, і выпадковай бабулі ў ліфце) чуў пра смерць былога старшыні гарвыканкама.

Маўляў, пасля разносу ад прэзідэнта Віктар Іванавіч ці то спалохаўся, ці то раскаяўся — і вырашыў паквітацца з жыццём.

Пацвярджаў распаўсюджанасць падобных чутак і грамадскі актывіст, экс-кандыдат у дэпутаты Ігар Случак. Ён асабіста часцей чуў пра тое, што "маглі прыбраць, каб справа з махінацыямі не адкрылася ў судзе". Гаворка ідзе пра махінацыі з кватэрамі, за якія ў Гомелі былі арыштаваны кіраўнікі Упраўлення капітальнага будаўніцтва і з якімі звязвалі таксама імя Піліпца.

"Народная Воля" паспрабавала высветліць, ці адпавядаюць чуткі пра самагубства рэчаіснасці. Аднак улады, відаць, вырашылі і далей ужываць палітыку замоўчвання ў адносінах да былога старшыні Гомельскага гарвыканкама.

"Народная Воля" звярнулася ва Упраўленне КДБ па Гомельскай вобласці: магчыма, супраць Піліпца заведзена справа і ён знаходзіцца пад вартай, пра што паведамлялася раней (хаця інфармацыя так і не знайшла тады афіцыйнага пацвярджэння)? *"Мы не можам гэта пракаментаваць".* Але Віктар Іванавіч хоць бы жывы? Ведаеце, ходзяць чуткі... *"Паўтараем: мы не можам гэта пракаментаваць".*

Па месцы яго новай працы, у прыёмнай "Гомельаграпрампраекта", нам адказалі, што на працу ён пакуль не выйшаў, паколькі знаходзіцца на бальнічным. *"Вы не можаце паведаміць, як хутка ён вернецца з бальнічнага?" — "Канешне, не!"* — нейкім нервова-бадзёрым галасам сказалі на тым боку провада.

У Бюро рэгістрацыі няшчасных выпадкаў УУС Гомельскага аблвыканкама, пачуўшы прозвішча, якое нас цікавіла, відавочна спалохаліся і далі ў вышэйшай ступені дзіўны адказ: *"Мы не ўпаўнаважаны даваць такую інфармацыю".*

У прыёмнай гарвыканкама на пытанне "Ці жывы-здаровы Віктар Іванавіч?" асцярожна адказалі: *"А што, павінна быць інакш?"* Ну, ведаеце, кажам, ходзяць чуткі... *"Ведаем. Але мы спадзяёмся, што гэта няпраўда".*

Некаторую надзею на тое, што гэта сапраўды няпраўда, даў званок у морг судова-медыцынскай экспертызы. Тут прозвішча былога кіраўніка горада не выклікала ніякіх эмоцый. Адказвалі флегматычна, відаць, для людзей, якія прызвычаіліся мець справу са смерцю, усе роўныя. Не, пашалясцеўшы паперамі, кажуць, Піліпца Віктара Іванавіча ў нас няма. *"Ёсць Півілец Віктар Уладзіміравіч. Не патрэбны?"*

Праз некалькі гадзін пасля публікацыі на нашым сайце інфармацыі пра гэтыя чуткі, якія нам не ўдалося абвергнуць, улады нарэшце перарвалі маўчанне. З'явілася афіцыйнае паведамленне Следчага камітэта, што былы старшыня Гомельскага гарвыканкама, на яго шчасце, не ў магіле ляжыць, а ўсяго толькі сядзіць у турме.

*"У дачыненні да В.Піліпца абрана мера стрымання ў выглядзе ўзяцця пад варту",* — паведаміў Следчы камітэт. Былы чыноўнік падазраецца ў здзяйсненні злачынства па частцы 3 артыкула 426 КК (перавышэнне ўлады ці службовых паўнамоцтваў).

Адно засталося незразумелым: што і ад каго ўтойвалі, чаму маўчалі да апошняга?

**Дзмітрый ГАЛКО.**

SOS!

## *Людзі гінуць на дарозе*

*Толькі ў Мінску за апошнія 10 гадоў у ДТЗ загінулі больш як 1000 чалавек, каля 15.000 атрымалі траўмы*

Самыя небяспечныя парушэнні правілаў бяспекі руху і эксплуатацыі транспарту адбываюцца, калі за рулём сядзіць п'яны кіроўца. Што насцярожвае: нярэдка вадзіцелі садзяцца за руль у нецвярозым стане ўжо пасля таго, як былі затрыманы і выплацілі немалыя штрафы за такое злоснае парушэнне. Напрыклад, нядаўна судом Заводскага раёна Мінска была разгледжана крымінальная справа ў дачыненні да 26-гадовага жыхара Мінскага раёна, які раней двойчы — у 2009-м і 2010 гадах прыцягваўся да крымінальнай адказнасці за кіраванне транспартным сродкам у стане алкагольнага ап'янення. Яго двойчы каралі штрафам у памеры 10,5 млн рублёў і арыштам тэрмінам на шэсць месяцаў з пазбаўленнем права кіраваць транспартнымі сродкамі. Аднак у красавіку 2012 года малады мужчына зноў быў затрыманы за кіраванне транспартным сродкам у стане алкагольнага ап'янення.

На гэты раз суд Заводскага раёна Мінска пакараў абвінавачанага арыштам на тэрмін пяць месяцаў з пазбаўленнем права кіравання усімі відамі транспартных сродкаў тэрмінам на пяць гадоў. Але ці дапаможа гэта? Атрымліваецца, што яшчэ два гады таму суд забараніў яму садзіцца за руль на 5 гадоў. Але ж ён сеў, і зноў у п'яным стане!

**П'яны супрацоўнік міліцыі ўчыніў ДТЗ**

Як паведамілі БелаПАН у праваахоўных органах, дарожна-транспартнае здарэнне адбылося ноччу 22 верасня недалёка ад вёскі Сарогі Слуцкага раёна. Паводле папярэдняй інфармацыі, міліцыянт, які знаходзіўся па-за службай, кіруючы ў п'яным стане Citroen, вылецеў з дарогі, урэзаўся ў бетонную агароджу моста і перакуліўся.

У выніку ДТЗ пасажыры — 22-гадовы малады чалавек і 16-гадовая школьніца атрымалі траўмы і змешчаны ў бальніцу, а яшчэ адна 16-гадовая пасажырка загінула.

ДЭМАГРАФІЯ

## *Кожнаму пятаму беларусу 60 гадоў і болей*

*На пачатак года ў Беларусі пражывала 1 млн 835 тыс. чалавек гэтай узроставай катэгорыі, што складае 19,4% ад агульнай колькасці насельніцтва.*

За апошнія дзесяць гадоў колькасць людзей сталага ўзросту ў цэлым па краіне зменшылася на 73,6 тыс. чалавек, або на 3,9%.

На пачатку 2012 года сярод пажылых людзей жанчыны складалі 65,3%. Калі на пачатак 2002 года на 1000 пажылых мужчын прыпадала 1 тыс. 815 пажылых жанчын, то на пачатак 2012 года — 1 тыс. 878 жанчын.

Дарэчы, сярод пажылых людзей 128,2 тысячы адзінокіх і 579,5 тысячы тых, хто пражывае адзін.

**ДАРЭЧЫ**

## *За 90!*

У Беларусі пражывае амаль 22,4 тыс. жыхароў ва ўзросце 90—99 гадоў. А 574 чалавекі адзначылі стогадовы юбілей. Сярод іх 11 чалавек старэйшыя за 110 гадоў. Пра гэта паведаміў на прэс-канферэнцыі намеснік міністра працы і сацыяльнай абароны Аляксандр Румак. Больш за ўсё доўгажыхароў у Гродзенскай вобласці — 124 чалавекі.

СПЕЦЫЯЛЬНЫ РЭПАРТАЖ

# Чаму пенсіянеры займаюць чэргі у 6 гадзін раніцы?

Раней сталічныя бюджэтнікі і пенсіянеры штовосень атрымлівалі так званыя "гароднінныя"... Цяпер нічога такога няма і блізка: купляць гародніну-садавіну даводзіцца за свае кроўна-мазольныя.

"Канечне, "пенсіён" трохі расце, — пагаджаецца мой знаёмы з вёскі Лапаравічы (паблізу Заслаўя) Міхаіл Дашчынскі, — але ж цэны, халера на іх, штодня паўзуць угору. Нават маёй пенсіі — два мільёны пяцьдзесят тысяч з хвосцікам — ледзьве хапае на самае неабходнае. А што казаць тым, у каго меней?.. Якія жывуць ў гарадскіх "хрушчобах" і не маюць ні кала, ні двара?!. Мусіць, сланяюцца ад адной крамы да другой, шукаючы, дзе што танней..."



## Чарга з шасці гадзін раніцы

У век інтэрнэту не абавязкова, канечне, шастаць па крамах. Можна ўсё заказаць праз WEB-магазін, і табе (за якія 30—50 тысяч руб.) даставяць усё, што трэба. Але які віртуальны продаж, які інтэрнэт для беднага пенсіянера, калі ён ледзьве канцы з канцамі зводзіць! І не віртуальна — а вельмі нават рэальна. Гэта радавы пенсіянер з Нямеччыны ці са Швецыі на "ты" з айфонам і айподам, а наш усё больш з авоськаю. Той немчык у верасні грэе свае маслы на Адрыятычным узбярэжжы дзе-небудзь у Харватыі, а наш размінае ногі, трусячы ад аднаго "Еўраопта" да другога ў пошуках чаго патанней.

...У фірмовы магазін Мінскай гародніннай фабрыкі людзі займаюць чэргі з шасці гадзін раніцы. А чаму? У 10 гадзін там пачынаецца продаж так званага "нестандарту" — памідораў, перцаў, цыбулі і ўсяго астатняга. Зразумела, па больш нізкіх цэнах, чымся ў звычайных крамах. Па вялікім рахунку тыя нестандартныя памідоры ды перцы мала чым адрозніваюцца ад звычайных стандартных: ну, крыху прымятыя, больш дробныя, з нехарактэрнымі крапінкамі ці плямамі... Дык такіх хапае і ў "Еўраопце", і на рынку. Розніца ў цане — зноў жа не такая кідкая, каб пёрціся туды (ажно за кальцавую дарогу) дзеля сумніўнай выгады. Але народ — пераважна пенсійнага ўзросту — упарта цярэбіць дарогу да таннага прадукту. Едуць цугам з усіх куткоў сталіцы, каб атаварыцца па поўнай.

Ларыса Дзік, загадчыца фірменнай "Мінскай гародніннай крамы", разумее пакупнікоў, але мяркуе, што многія з іх купляюць танную гародніну не столькі для ўласных харчовых патрэб, колькі для... перапродажу на рынках ці проста ў сваім двары. *"Асабіста бачыла*, — кажа, — *як наша пастаянная пакупніца прадавала гародніну на рынку ў Чыжоўцы. У нас купляла па 1500 рублёў, а прадавала па 4500. Якраз тыя, хто часцей за ўсіх скандаляць з-за падвышэння цэн ці там з-за якасці прадукцыі, потым яе і перапрадаюць. Іх мы ведаем у твар..."*

Што тут скажаш?.. Мо толькі адно: у маленькага чалавека — маленькі бізнес, у вялікага — вялікі... І яшчэ не вядома, чый — з Боскай літасці, а чый — ад д'ябла...

Але параўнаем цэннікі на хаця б традыцыйную для большасці людзей гародніну: наколькі кошты "стандарту" адрозніваюцца ад "нестандарту"? І ўвогуле, ці варта малазабяспечаным людзям шастаць на другі канец горада, каб абжыцца якім перчыкам? Балазе, пачаліся восеньскія кірмашы, "калёсную" гародніну можна сустрэць літаральна ў сваім двары...



ФЕРМЕРСКОЕ ХОЗЯЙСТВО
п.САМОХВАЛОВИЧИ 27сентября 2012г.

| | | | |
|---|---|---|---|
| | | | 21500 |
| 1 | Чеснок | | 2000 |
| 2 | Картофель | | 3200 |
| 3 | Морковь | Пс 1500 | 2900 |
| 4 | Свекла | | 2900 |
| 5 | Капуста | мелкий 2000 | 3200 |
| 6 | Лук | | 5900 |
| 7 | Кабачок | | 7900 |
| 8 | Перец | Пс 3000 | 9500 |
| 9 | Баклажан | Пс 3000 | 6900 |
| 10 | Томат | 5500 | 9900 |
| 11 | Огурец | | 11500 |
| 12 | Капуста цветная | | |
| 13 | | | |
| 14 | | | 15500 |
| 15 | Груша | 2500 | 3900 |
| 16 | Яблоки | 5800 | 11500 |
| 17 | Перец острый | | 1000 |
| 18 | Сетки | | 300/500 |
| 19 | Пакеты Б/М | | |

Директор 8-029-33-55-600

### У апошняй дэкадзе верасня цэны на "нестандарт" былі:

памідоры (з плямкамі) — 2540 рублёў за кілаграм,

памідоры (без плямак, але нестандартнай формы і памеру) — 5080 рублёў,

баклажаны — 7260 рублёў,

часнок — 25.410 рублёў.

### На гэтыя ж катэгорыі прадуктаў, але ў фірменнай краме:

памідоры — 8470 рублёў,

баклажаны — 24.200 рублёў,

часнок — 36.630 рублёў.

## Шукайце фермера

Раён "Паўднёвы захад" сталіцы — процілеглы бок ад Мінскай гародніннай фабрыкі і яе фірмовай крамы. Таму зробім шопінг па сваім раёнчыку: тут два "Еўраопты", Маскоўскі рынак, а на праспекце Газеты "Звязда" адразу некалькі фермерскіх гандлёвых аўтавазкоў з розным зелянівам, садавінай і гароднінай. Словам, купляй — не хачу... А якія цэны?..

Для пачатку (і для парадку) заходжу ў "Еўраопт". Год таму сюды народ валам валіў, літаральна валтузіў скрыні з розным (пераважна імпартным) садова-гародніным начыннем. Было проста не праціснуцца. І цяпер усяго хапае, праўда, народу паменела: ці то ад'еліся, ці то цэннікі "кусаюцца". Але вось і яны — чырвоныя і ў аршын велічынёю:

памідоры — 10.900 рублёў,

перцы — 22.900 рублёў,

капуста — 3000 рублёў,

яблыкі — 10.900 рублёў,

цыбуля (рэпка) — 3500 рублёў.

Ну, і гэтак далей...

Ідзём далей: за якія трыста крокаў (проста на тратуары) — перасоўная лаўка сялянскай фермерскай гаспадаркі "Мярское" з-пад Самахвалавічаў. У наяўнасці ўвесь традыцыйны асартымент, якасць гародніны — кідаецца ў вочы адразу — найвышэйшая. А цэны?

Баклажаны — 9500 рублёў.
Морква — 3200 рублёў.
Перцы — 7500 рублёў.
Памідоры — 6900 рублёў.
Часнок — 26.500 рублёў.
Агуркі — 9900 рублёў.
Бульба — 2000 рублёў.

Праз пяцьсот крокаў "з калёс" прадае яшчэ адна фермерская гаспадарка — "Абсалют-Агра" з Пухавіцкага раёна. Гародніна — залюбуешся! Ружавашчокая, мілавідная прадавачка Алена Татарчанка толькі пачала гандаль, а народ ужо гуртуецца ў чаргу.

Цыбуля — 2980 рублёў.
Памідоры — 6500 рублёў.
Часнок — 25.000 рублёў.
Перац горкі — 25.000 рублёў.
Морква — 2480 рублёў.
Кабачкі — 5800 рублёў
Цыбуля — 2980 рублёў.

На скрыжаванні праспекта і вуліцы Голубева — рынак "Маскоўскі". Прадаюць як у павільёнах, так і пад навесамі. Вулічныя гандляры — вясковы ўсё народ, ну, і дачнікі, вядома. Натуральна, кірую да тых, каго камерсантамі-бізнесменамі язык не павернецца назваць, бо ўсё вырашчана сваімі рукамі. Самі пасадзілі, самі вырасцілі, самі прадаюць. Прыцэньваюся, па ходу справы распытваю: хто ды адкуль, якія гатункі бульбы, яблыкаў, перцаў і ўсё такое. Але цэны перадусім:

бульба — ад 2500 да 3500 рублёў,

цыбуля — 6000 рублёў,

памідоры — 7000 рублёў,

перцы — ад 6000 да 10.000 рублёў,

капуста — 5000 рублёў,

агуркі — 12.000 рублёў.

Яблыкаў — мора! Год жа — яблычны...

Рынак (у шырокім сэнсе) не робіць скідак на пенсійны ўзрост, увогуле не зважае на сацыяльны статус чалавека. Скідкі робіць дзяржава, ды і то (як высвятляецца), калі палічыць за патрэбнае. Але гэтай восенню ніякіх "гароднінных": ні для пенсіянераў, ні — тым больш — для бюджэтнікаў! "Цяпер, братка, — згадваю словы Міхаіла Эдуардавіча Дашчынскага, — як можаш, так і выкручвайся. Хочаш — гарэлку пі, а хочаш — рэпу грызі..."

**Георгій ЧЫГІР.**

## Паласа пікавых выплат

Міністр фінансаў Андрэй Харкавец, выступаючы на пашыраным пасяджэнні камісіі па бюджэце, фінансах і падатковай палітыцы Палаты прадстаўнікоў, заявіў, што ў 2013 годзе Беларусь "уваходзіць у паласу пікавых выплат па знешнім дзяржаўным доўгу". *"Чакаецца двухразовы прырост плацяжоў у параўнанні да бягучага года да 3,1 млрд долараў ЗША"*, — падкрэсліў міністр.

У сувязі з гэтым, адзначыў Харкавец, урад ставіць перад сабой задачу рэфінансаваць частку пазыковага пакета. *"Будзем працаваць па наступных кірунках: па-першае, над атрыманнем двух траншаў крэдыту з Антыкрызіснага фонду ЕўрАзЭС у аб'ёме 0,9 млрд долараў. Па-другое, мы ўжо сёлета пачалі працу па выхадзе на міжнародныя рынкі капіталу з мэтай магчымага размяшчэння дзяржаўных аблігацый у 2013 годзе"*, — паведаміў кіраўнік Мінфіна.

ЧУЛІ?

## Газ падаражэе

*Кошт прыроднага газу "на ўваходзе" ў Беларусь складзе ў 2013 годзе 185 долараў, паведаміў міністр фінансаў* ***Андрэй Харкавец***.

Плануецца, што цана на газ для арганізацый Мінэнерга складзе 216 долараў.

У 2012 годзе цана складала 165,6 долара. Такім чынам, рост цаны складзе 12%.

## Карупцыя разрастаецца...

І асабліва ў сталічным рэгіёне. Не хаваюць тое нават аблвыканкамаўскія ідэолагі, якія надоечы агучылі набалелае: толькі за 8 месяцаў бягучага года на тэрыторыі рэгіёна выяўлена 573 эканамічныя злачынствы, з іх 223 з элементамі карупцыі, у тым ліку 97 фактаў хабарніцтва...

Матэрыяльныя страты па закончаных крымінальных справах эканамічнай скіраванасці склалі 4,8 млрд рублёў, з якіх вернута толькі 2,3 мільярда. Накладзены арышт на маёмасць складае суму 3,2 млрд рублёў. Найбольшая колькасць злачынстваў выяўлена ў прамысловасці — 41, у сферы гандлю — 26, органах дзяржаўнага кіравання — 23...

Да крымінальнай адказнасці на Міншчыне толькі ў гэтым годзе ўжо прыцягнута 159 чалавек. З іх трэць (50 асоб) — чыноўнікі розных масцей. Следчыя органы задакументавалі 27 крымінальных спраў, звязаных з "дзяржаўным кіраваннем"... І 23 выпадкі з гэтай "абоймы" — карупцыйныя. Відаць, іх і меў на ўвазе Лукашэнка, калі заявіў, што ў беларускіх турмах "годныя людзі сядзяць".

**Георгій ПЛАТОНАЎ.**

ТЕМА ДНЯ

# Доллар дорожает. И исчезает из обменников?

Цена доллара в эти дни побила годовой рекорд — на Белорусской валютно-фондовой бирже курс доллара достиг 8490 рублей. Банки продают валюту по еще более высокой цене: вчера доллары в минских обменниках стоили от **8540** до **8630** рублей за 1 доллар. Но в Минске валюту купить можно. Без очереди и любую сумму, если она, конечно, не 10 тысяч долларов: тогда придется обратиться в несколько обменных пунктов. А вот с периферии стали приходить тревожные звоночки. На днях журналист из Бобруйска Дмитрий Растаев проверил наличие валюты в обменных пунктах своего города. В обменниках Нацбанка, ВТБанка и одном из двух обменных пунктов "Белинвестбанка" долларов в продаже журналист не обнаружил. Но была валюта в отделениях "Белвнешэкономбанка", "Беларусбанка" и других. Правда, как отметил Дмитрий, "к обменникам, где доллары были в наличии, очереди выстраивались с выходом на проспект".

Есть ли повод запасаться валютой? Сколько может стоить доллар к концу года? Эксперты успокаивают: резких изменений курса не будет, ползучая девальвация возможна, но в незначительных пределах.

АВТОРИТЕТНО

## Валюта может подорожать на 5—10%



— Разговоры о том, что в стране закончилась валюта, безосновательны, — считает финансовый аналитик официального партнера Альпари в Минске **Вадим ИОСУБ.** —Даже появление табличек "Продажи нет" на обменных пунктах не говорит о валютном кризисе. У нас в стране тысячи обменных пунктов, и если подобное объявление появилось на одном, двух — это скорее свидетельствует о том, что просто какой-то банк не позаботился приобрести на этот день большого количества валюты, просчитался в расчетах. Это ошибка локального масштаба, которую банк легко исправит: уже на следующий день купит валюты больше.

Сегодня на Белорусской валютно-фондовой бирже нет никаких ограничений для банков в покупке валюты — приобретай хоть 100 тысяч долларов, хоть миллион и завози в обменные пункты. Дефициту валюты просто неоткуда взяться. Актуален скорее другой вопрос: каким будет курс доллара в ближайшее время и на какой отметке он остановится к концу года? Исходя из тенденции, которая наметилась с июля, рублевые доходы населения растут, а экспортная выручка государства падает, и спрос на всех сегментах валютного рынка превышает предложение, курсы всех иностранных валют будут постепенно расти. Бояться этого сильно не стоит. Это естественное поведение валюты в рыночной ситуации. В первой половине года, пока валютное предложение превышало спрос, курс падал или стоял на месте, сейчас ситуация сломилась, и валюты растут в цене.

К концу года, на мой взгляд, валюта может подорожать на 5—10%, но резких, обвальных изменений курса не будет, и уж тем более не стоит бояться дефицита валюты. Также не стоит забывать, что цена доллара зависит не только от того, что происходит в белорусской экономике и финансовой сфере, но и от ситуации на мировых валютных рынках, от взаимных колебаний евро, доллара и российского рубля. Если за этот промежуток времени, например, доллар вырастет к евро, то и в Беларуси доллар будет расти в цене больше, чем евро. Но обесценивание белорусского рубля будет одинаково.

**Мария ЭЙСМОНТ.**

ЦИТАТА

## *Надежда ЕРМАКОВА, глава Нацбанка:* «Валюты достаточно»

— Валюты достаточно для того, чтобы удовлетворить имеющийся на нее спрос. Мы в первую половину года скупали валюту и на бирже, и у населения, — заверила Надежда Ермакова Александра Лукашенко во время рабочей встречи, которая состоялась на этой неделе.

— Выборы прошли, и каких-то серьезных изменений мы не видим. Так что ситуация с "девальвационными" и "инфляционными" ожиданиями населения стабилизируется, — отметила руководитель Нацбанка.

К СЛОВУ

## В новом году цена доллара не превысит 9 тысяч рублей?

В Беларуси в 2013 году среднегодовой обменный курс рубля прогнозируется на уровне 8950 белорусских рублей за 1 доллар. Такие параметры заложены в проекте госбюджета на 2013 год, поступившем в распоряжение ПРАЙМ-ТАСС. При этом оценка среднегодового обменного курса на 2012 год составляет 8400 белорусских рублей за 1 доллар.

Как сообщал ПРАЙМ-ТАСС, при построении прогноза развития экономики на 2012 год в расчет принимался среднегодовой курс белорусского рубля на уровне 9150 белорусских рублей за 1 доллар.

ТЕМ ВРЕМЕНЕМ

## Белорусы бросились скупать золото и платину

В августе текущего года по сравнению с июлем отмечалось существенное увеличение спроса на платиновые, золотые и серебряные мерные слитки, сообщили в Национальном банке.

Платиновых слитков Нацбанка в августе было продано 6 кг (в июле — 1,96 кг). Объем реализованных за август золотых мерных слитков Национального банка достиг 46,1 кг (в июле — 26,9 кг). Реализация серебряных мерных слитков в августе выросла не столь значительно и составила 51,72 кг по сравнению с 44,48 кг в июле текущего года.

К слову, долларов и евро в августе белорусы купили больше, чем продали. Если в июле населением было куплено 2,1 миллиона долларов, в июне — 17,4 миллиона, то в августе — 37,3 миллиона. Но если проследить динамику за 8 месяцев года, то купили белорусы 490,5 миллиона долларов, а продали — 812,1 миллиона.

БЕЛАРУСЬ: МОДЕРНИЗАЦИЯ, ВЗГЛЯД В ЗАВТРА



*Леонид ЗЛОТНИКОВ:*

# «Когда нельзя будет продать свой товар, зашевелятся и власти, и руководители предприятий»

*Россия вступила во Всемирную торговую организацию (ВТО). Какую выгоду может извлечь из ситуации белорусская сторона? Подтолкнет ли это Беларусь к проведению экономических реформ? Может ли со временем и наша страна оказаться в ВТО? Об этом корреспондент "Народной Воли" беседует с кандидатом экономических наук, доцентом Леонидом ЗЛОТНИКОВЫМ.*

— Не вся белорусская продукция конкурентоспособна, — отмечает экономист. — Трудно сказать, по каким позициям мы можем кого-то отодвинуть в сторону, но нас с российского рынка будут понемногу вытеснять. Хотя это случится не сегодня. Процесс постепенный, в течение трех лет в России после вступления в ВТО будет идти снижение импортных пошлин. А значит, на их рынке появится еще большая конкуренция. Вот, например, уже с августа снижены импортные пошлины на живых свиней, и сейчас их могут завозить из других стран для производства мяса в России. Прямая конкуренция Беларуси! Снижены пошлины на подержанную сельскохозяйственную технику, и россияне сейчас могут брать импортные тракторы, которые немного уже поработали, а не новые белорусские. Кстати, по сельхозтехнике в Беларуси уже отмечается затоваривание, накопление на складах. Можно ожидать, что произойдет вытеснение с российского рынка и белорусских товаров легкой промышленности, если будут создаваться крупные западные торговые сети. Они более опытные в рекламе, маркетинге. И некоторые руководители белорусских предприятий уже сами заявляют об угрозе со стороны конкурентов. Можно приводить и многие другие примеры, но общий вывод таков: после вступления России в ВТО конкуренция повысится, и белорусские товары могут проиграть.

**— Кроме того, с 20 сентября заработала зона свободной торговли стран СНГ...**

— Да, ратифицировали документы Россия, Беларусь и Украина. И сейчас можно ожидать появления на белорусском рынке более дешевых украинских товаров. Раньше Беларусь правдами и неправдами могла препятствовать продвижению этих товаров на наш рынок, но теперь придется считаться с оговоренными соглашениями.

**— Подтолкнут ли эти факторы Беларусь к реформам?**

— И вступление России в ВТО, и зона свободной торговли стран СНГ, и Единое экономическое пространство (ЕЭП) — это пространства с рыночной экономикой. Как я уже говорил, будет сильная конкуренция. В Беларуси пока экономика не рыночная, многие предприятия — государственные, конкуренции внутри страны для них практически нет, работают старыми методами. Поэтому, безусловно, это будет неплохо подталкивать руководство к переходу на рыночные отношения. Но, с другой стороны, надо понимать и то, что сегодня белорусская власть не особо желает этих реформ. Возможно, будут попытки сделать какие-то исключения для Беларуси, чтобы оградить товары от конкуренции. Одним словом, может быть поворот и влево, и вправо.

**— Но ведь альтернатива такова: либо делать реформы через "не хочу", либо наши товары станут неконкурентоспособными?**

— Другого выхода просто нет, жизнь уже подталкивает к реформам. И сейчас в новых условиях конкурентной борьбы очень трудно будет делать вид, что мы что-то стремимся изменить. Пора уже определяться и перестать играть в игру "строительство социализма с капиталистическим лицом".

**— Не будет ли противоречий между тем, что планируют в Таможенном союзе (ТС) с нормами ВТО?**

— Не думаю, потому что Таможенный союз изначально строился, исходя из того, что Россия вступит во Всемирную торговую организацию. И в августе этого года пошлины стран ТС были подогнаны под те пошлины, которые Россия согласовала с ВТО. Хотя на переходный период есть исключения по некоторым видам товаров.

**— Не помешает ли вступление России в ВТО созданию Единого экономического пространства?**

— Тоже вряд ли, ведь Москва заинтересована в ЕЭП. Для России жизненно важно создание этого пространства, и она будет делать все возможное для того, чтобы проект существовал. Россия сейчас играет по правилам ВТО и подгоняет экономическое пространство таким образом, чтобы можно было интегрироваться и с другими странами. Сейчас, например, ведутся переговоры о создании зоны свободной торговли с Новой Зеландией. И молочная продукция последней опять-таки может потеснить белорусскую продукцию на российском рынке. Это значит, что Беларусь автоматически втянут в зону свободной торговли с Новой Зеландией.

**— На ваш взгляд, может ли Москва поспособствовать вступлению и Беларуси во Всемирную торговую организацию?**

— Она уже в некотором смысле помогает в оформлении документов, используются дипломатические методы... Но главное, что нужно для вступления в ВТО, — выполнение их условий. Нужно пройти много этапов. И один из них — Беларусь должна провести переговоры со всеми заинтересованными странами о взаимных уступках по пошлинам, пойти по пути России. Хотя не исключаю, что вступление Беларуси в ВТО некоторые страны могут заблокировать и по политическим причинам. Реформы нужны не только экономические, но и политические.

**— Какую выгоду может извлечь Беларусь после вступления России в ВТО?**

— Здесь надо отталкиваться от того, какую выгоду из этого будет иметь сама Россия. Это борьба с собственной бюрократией. Ведь российское руководство годами подталкивало предприятия к проведению инновационной политики. Ничего не получалось, конкурентоспособность продукции не повышалась. А вот когда появились на рынке реальные конкуренты, тогда и предприятия зашевелились. Все это проецируется и на Беларусь. Второй момент — вступление в ВТО означает прозрачные процедуры по приходу в страну иностранного капитала. Конкуренция заставит сами предприятия бороться с разными "откатами" и непрозрачными схемами, чиновники перестанут месяцами ставить одну подпись. В данном случае время — деньги. Думаю, в этом заинтересована любая страна. В том числе и Беларусь. Повторюсь, сама жизнь к этому подталкивает. Когда нельзя будет продать свой товар, а народ станет возмущаться низкими доходами, вот тогда зашевелятся и власти, и руководители предприятий.

**— На ваш взгляд, белорусское руководство уже осознает, какие последствия ожидают наших производителей после вступления России в ВТО?**

— Мне кажется, что до конца еще не осознает. Я знаю, что директора некоторых предприятий даже не участвовали в конференциях по теме "Как вступление России в ВТО повлияет на работу отраслей". Эта работа начинается только сейчас. Но откладывать ее уже нельзя...

**Алесь СИВЫЙ.**

ДАРЭЧЫ

Калі зыходзіць з аптымістычнага сцэнарыя, то Беларусь можа ўступіць у Сусветную гандлёвую арганізацыю (СГА) праз два гады. Такое меркаванне выказаў намеснік міністра замежных спраў Беларусі Аляксандр Гур'янаў.

*"Буду стрыманым аптымістам, назаву, напэўна, два гады — аптымістычны сцэнарый*, — сказаў намеснік міністра. — *А негатыўны мы не разглядаем".*

Гур'янаў нагадаў, што Беларусь вядзе перамовы з СГА з 1993 года. Па яго словах, "*былі і адчуваюцца перыядычныя праблемы, калі не так актыўна глядзяць у наш бок, зыходзячы з розных палітычных плыняў. Але ў той жа час далучэнне Расіі да СГА ставіць краіны-ўдзельніцы ў сітуацыю, калі ў іх няма падстаў тармазіць уступленне ў гэтую арганізацыю Беларусі*".

СПРАВА БЯЛЯЦКАГА

*"Народная Воля" працягвае друкаваць часткі з кнігі пра вядомага праваабаронца, якую напісаў журналіст **Валер Каліноўскі**.*

*(Пачатак у №№145—146, 149—150.)*

# Суддзя «Не»

Справу Бяляцкага пасля папярэдняга следства (яго выканаў Дэпартамент фінансавых расследаванняў Камітэта дзяржаўнага кантролю па Мінску і Мінскай вобласці) перадалі ў суд Першамайскага раёна Мінска — па месцы прапіскі Алеся. Але паколькі ў будынку гэтага суда на вуліцы Талбухіна, 9 няма прасторнай залы, працэс вырашылі правесці ў зале суда Маскоўскага раёна.

Суд Першамайскага раёна Мінска даволі рэдка выкарыстоўвалі для палітычна матываваных працэсаў. Магчыма, якраз таму, што ён размешчаны ў старым будынку, залы яго малыя і не прыстасаваныя для надзвычайных захадаў бяспекі, якія прымаюцца ўладамі на працэсах супраць сваіх апанентаў. За часы прэзідэнцтва Аляксандра Лукашэнкі ў Мінску пабудавалі некалькі "палацаў правасуддзя", шматпавярховых будынкаў раённых судоў з вялікім штатам ахоўнікаў і сакратароў. У такіх і судзяць апазіцыю.



У 2011 годзе ў час канвеера судоў над арыштаванымі за Плошчу ў судзе Першамайскага раёна быў толькі адзін палітычна матываваны крымінальны працэс — тут асудзілі Зміцера Бандарэнку, актывіста выбарчага штаба Андрэя Саннікава. Раней за абразу Лукашэнкі ў гэтым судзе былі асуджаны на "хімію" (прымусовую працу) актывіст Партыі БНФ Віктар Івашкевіч, сябра руху "Малады фронт" (зарэгістраваны ў Чэхіі) Артур Фінькевіч, палітык і прадпрымальнік Андрэй Клімаў.

Старшыня Першамайскага суда Тамара Высоцкая даручыла справу Бяляцкага суддзе Сяргею Бандарэнку. Апошні вызначыўся тым, што быў у ліку 84 мінскіх суддзяў, якія прымалі асуджальныя рашэнні ў адміністрацыйных справах за ўдзел у пратэстах пасля выбараў прэзідэнта 19 снежня 2010 года.

Сяргей Бандарэнка — адзін з суддзяў, якіх у Беларусі прызначае прэзідэнт краіны. "Няма спадзяванняў на тое, што ў такіх умовах суддзя можа разглядаць справы, асабліва супраць апазіцыі, аб'ектыўна, бесстаронна, з улікам прынцыпу спаборнасці бакоў і прэзумпцыі невінаватасці", — мяркуе былы беларускі суддзя і адвакат Гары Паганяйла.

Бандарэнка выключэннем не стаў. Праваабаронцы на судзе Бяляцкага казалі, што суддзя вядзе працэс з абвінаваўчым ухілам. Ён задаволіў лічаныя хадайніцтвы падсуднага і ягонага адваката Лаеўскага, адмовіўся весці працэс па-беларуску.

Калісьці на Захадзе ўпартага савецкага міністра замежных спраў Андрэя Грамыку называлі "містэрам "Не". За няўступлівасць да ініцыятыў абароны Бандарэнка, відавочна, заслужыў званне суддзі "Не". Як і іншыя ягоныя калегі, што вядуць працэсы супраць апазіцыі і на звароты падсудных і адвакатаў у большасці выпадкаў кажуць "Не", а на патрабаванні пракурораў — "Так".

Як зазначыў сам Бяляцкі, ягоныя словы і словы адваката ў судзе былі не чым іншым, як "марным крыкам у пустэльні".

Адхіліў суддзя Бандарэнка і адно з самых важных хадайніцтваў — аб змене меры стрымання Бяляцкаму з арышту на падпіску аб нявыездзе. Як сведчыць юрыст Гары Паганяйла, грамадзян, якім інкрымінуюцца эканамічныя злачынствы, не заўсёды трымаюць пад вартай: "Гэта не забойства, не рабунак, не гвалтаванне. Тут можна абмежавацца іншымі, альтэрнатыўнымі арышту мерамі стрымання. І гэта адно з патрабаванняў Крымінальна-працэсуальнага кодэксу пры выбары меры стрымання: даследаваць і тыя абставіны, якія дазваляюць не ўжываць арышт".

На стадыі папярэдняга следства Алеся не ўдалося вызваліць з-за кратаў, нягледзячы на хадайніцтвы абаронцы на адрас следства і суда, асабістыя паручальніцтвы соцень беларускіх і замежных грамадзян, якія, у адпаведнасці з артыкулам 121 КПК, пісьмова гарантавалі, што падазроны Бяляцкі не схаваецца ад крымінальнага пераследу і суда. На гэта следчыя адказвалі стандартнай адмовай.

Паводле Міжнароднага пакта 1966 года аб грамадзянскіх і палітычных правах, да якога фармальна далучылася і Беларусь, пасля завядзення справы меру стрымання абвінавачанаму вызначае суд. У Беларусі ж гэта робіць пракуратура. Гэткі парадак не раз быў аб'ектам крытыкі з боку цэнтра "Вясна" (пазбаўленага рэгістрацыі).

Але і суд, калі ў яго на пачатку працэсу з'явілася магчымасць змяніць меру стрымання на мякчэйшую, выявіў жорсткасць. Суддзя Бандарэнка атрымаў у першы дзень працэсу адразу два хадайніцтвы на гэты конт — вуснае ад самога Алеся і пісьмовае — ад ягонага адваката. Адвакат пісаў: "Адсутнічаюць дастатковыя падставы і неабходнасць утрымання Бяляцкага пад вартай".

Каб вынесці рашэнне па апошнім хадайніцтве, суддзя нават на паўгадзіны выйшаў у дарадчы пакой. Вердыкт той самы: "Не".

Сваю адмову Бандарэнка аргументаваў цяжкасцю злачынства, якое інкрымінуецца Бяляцкаму. Як і раней следчыя, суддзя фармальна нічога не парушыў. Адпаведны закон дазваляе ўтрымліваць чалавека пад вартай толькі на падставе цяжкасці артыкула, паводле якога заведзена справа, і не тлумачыць гэта доказамі таго, што падследны ці падсудны можа ўцячы, або ўплываць на ход расследавання, або ціснуць на сведак...

"А трэба было ўлічыць і асобу, і характар інкрымінаванага злачынства. Гэта ж не гвалтоўнае злачынства. Плюс да таго Алесь меў тысячы магчымасцяў з'ехаць з краіны ад моманту, калі даведаўся пра пераслед напрыканцы чэрвеня, і да моманту затрымання 4 жніўня", — разважае юрыст Валянцін Стэфановіч.

Суддзя Бандарэнка адказваў адмовай і на іншыя важныя для справы хадайніцтвы, у тым ліку просьбы адваката Лаеўскага зрабіць запыт да замежных арганізацый, што фінансавалі дзейнасць "Вясны" праз рахункі Бяляцкага ў Польшчы і Літве, каб тыя паведамілі, для чаго яны перасылалі гэтыя грошы. Адвакат нагадаў, што на гэты конт было нават даручэнне следству ад імя першага намесніка пракурора Мінска Казіміра Кежуна, але следчая брыгада Дэпартамента фінансавых расследаванняў яго не выканала. Следчыя не паслухалі пракурора, а суддзя — адваката. На думку Валянціна Стэфановіча, гэта сведчыла пра абвінаваўчы ўхіл працэсу. Суддзя такім чынам ігнараваў акалічнасці, якія маглі б апраўдаць Бяляцкага. Міжнародныя праваабарончыя цэнтры, якія падтрымлівалі дзейнасць "Вясны", пазней і без запытаў з Мінска напісалі ў суд, што яны накіроўвалі грошы не асабіста Бяляцкаму, а на дзейнасць арганізацыі, на дапамогу беларускім палітвязням і што ніякіх прэтэнзій да Бяляцкага наконт выкарыстання іхніх грошай яны не маюць.

Трэба прызнаць, што некалькі хадайніцтваў абароны суддзя ўсё ж падтрымаў, у тым ліку — пра пераклад з розных замежных моў дакументаў справы, дасланых з Літвы і Польшчы, пра абарот грошай на рахунках Бяляцкага. Гэтыя дакументы былі пакладзены ў аснову абвінавачання, хоць следства і не здолела перакласці іх да пачатку суда. У выніку сам Бяляцкі ў час працэсу перакладаў што мог.

ВАС ЦІКАВІЦЬ...

## «Заслужаная» пенсія складае 2,5 мільёна

***Чула, што пенсію за асаблівыя заслугі перад Рэспублікай Беларусь атрымлівае толькі адзін замежнік — грамадзянка Балгарыі. Цікава, а які памер гэтай пенсіі?***

**Л.Несцер, Мінская вобласць.**

Так, сапраўды, як паведаміў намеснік міністра працы і сацыяльнай абароны **Валерый Кавалькоў**, грамадзянка Рэспублікі Балгарыя, удастоеная ў 1990 годзе ганаровага звання "Заслужаны дзеяч мастацтваў Беларускай ССР" за вялікі ўклад у развіццё опернага мастацтва, атрымлівае зараз пенсію за асаблівыя заслугі перад Рэспублікай Беларусь.

Усяго ж у краіне налічваецца 5,1 тысячы атрымальнікаў пенсіі за асаблівыя заслугі перад Рэспублікай Беларусь. Яе сярэдні памер складае ў цяперашні час 2 мільёны 515 тысяч рублёў.

Як адзначыла намеснік начальніка галоўнага ўпраўлення пенсійнага забеспячэння і сацыяльнага страхавання Міністэрства працы і сацыяльнай абароны **Ларыса Яшкова**, Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва выплачвае пенсіі 3683 беларусам, якія пражываюць у 10 краінах.

Выплата пенсій за мяжу праводзіцца ў выпадках, прадугледжаных нацыянальным заканадаўствам, грамадзянам, якія выехалі на пастаяннае жыхарства за межы краіны да 1 студзеня 1993 года. У адпаведнасці з міжнароднымі дамовамі (дагаворамі) выплата пенсіі ажыццяўляецца беларускім пенсіянерам, якія пражываюць у Расіі, Латвіі, Літве.

У цэлым выплачваюцца пенсіі 3683 беларускім пенсіянерам, якія пражываюць у Расіі, Латвіі, Літве, Ізраілі, Іспаніі, Польшчы, В'етнаме, ЗША, Германіі, Украіне.

ПИСЬМА МИНСКОМУ ДРУГУ

## Почему я не пошел на выборы?

*Уважаемый Владимир Петрович*, пишу Вам кратко, в формате записки.*

Белорусское телевидение несколько дней очень подробно обрисовывало нелепости западных выборов и преимущества наших. Во Франции выборы проводит МВД, в Англии ЦИК назначает королева, в Америке потерялась почти треть избирателей, в Эстонии вообще голосуют по Интернету... Везде все плохо с выборами! И с демократией. А у нас — хорошо.

Я бы согласился. Меня убедить легко, если бы не несколько "но"...

Я наивно полагал, что главное в выборах — не процедура, а их ЧЕСТНОСТЬ. Выборы — это когда люди из конкурирующих кандидатов или партий выбирают победителя. Единственное условие — чтобы все это признали: и избиратели, и проигравшие, и победители.

Я не слышал, чтобы на Западе проигравшие кандидаты называли выборы сфальсифицированными, а партии отзывали своих кандидатов. В цивилизованных странах, если есть сомнения в подсчете голосов у партий или кандидатов, просто организуют публичный пересчет голосов, как это было в Америке во время кампании Гор—Буш. У избирателей может быть недоверие к тому или иному политику или партии, но к выборам — никогда. Честность выборов — это аксиома, главный общественный консенсус западных демократий. И эта честность позволяет им иметь любые нелепые и архаичные процедуры.

Честно говоря, у меня нет ни одного знакомого, который считал бы белорусские выборы честными. НИ ОДНОГО. Даже среди тех, кто поддерживает президента и власть: чиновники, пропагандисты, бизнесмены, старушки и пролетарии оправдывают эту нечестность необходимостью стабильности. Обе мои бабушки, которым далеко за 70 и в свое время они голосовали за Лукашенко, в один голос говорят: "*Все равно посчитают как хотят. Но пусть лучше он, чем другие*". Они не верят в выборы. Никто не верит. И вы не верите.

Я не считаю эти выборы ни открытыми, ни честными. Почему?

ОТКРЫТОСТЬ — это когда все, кто хочет участвовать в выборах, может в них поучаствовать. Но ЦИК не допустила до выборов большое количество политиков. Это факт.

Мне плевать, какие поводы для этого нашли. Не может описка в документах или бездоказательное мнение мифического эксперта о недействительности подписей влиять на такую принципиальную вещь, как возможность для белорусского народа выбрать лучших из лучших. Этот выбор у меня ОТНЯЛИ.

Были вопиющие случаи: кандидата снимали за "недействительные", по мнению графолога, подписи. Политик предлагает опросить людей, они или не они подписались, — ему отказывают. Как же тогда вообще доказать ошибку эксперта? Это же бред!

Теперь о честности. Если наши выборы такие честные, зачем гнать несчастных студентов, военных, колхозников на досрочное голосование? Это же всем видно. Это же неприлично. Обязательно у каждого белоруса есть такой знакомый, которого уговорами, шантажом или угрозами заставили это сделать. ЗАЧЕМ?

Но главное сомнение — насчет подсчета голосов.

Опять же, если есть сомнения у избирателей, кандидатов, наблюдателей, — почему их не допустить к этому подсчету? Не понимаю. Ткнуть эту "пятую колонну" в их реальный рейтинг. "*Не веришь, подлый оппозиционер или там наблюдатель ОБСЕ, — на, мудак, сам пересчитай! И пусть у тебя потекут слезы от уровня народной поддержки*"! В чем проблема так сделать?

С точки зрения простого человека ответ только один — ЕСТЬ ЧТО СКРЫВАТЬ. Значит, подтасовывают, мухлюют, приписывают. Так думают мои бабушки, мои родители, моя жена, актеры, режиссеры, дворники в моем дворе, продавщицы, знакомые учителя и мои студенты...

В этих условиях уже неважно, есть ли формальные нарушения, нет ли формальных нарушений, — доверия нет. Как говорил Станиславский: НЕ ВЕРЮ!

И вот одни говорили: правильно, что мухлюют, чтобы не допустить пустозвонов, олигархов и западников во власть, не дать страну раскачивать. Другие — что неправильно...

А я подумал, подумал и решил: пожалуй, я эти выборы ПРОПУЩУ...

**Андрей КУРЕЙЧИК, драматург.**

* *14 письмо бывшему замминистра культуры, а ныне первому заместителю генерального директора Национального академического Большого театра оперы и балета В.П.Рылатко.*

ВОПРОС-ОТВЕТ

## Зимнее время возвращать не собираются

***В России сейчас решается вопрос о переходе на постоянное зимнее время. А что у нас? Снова будем ориентироваться на Россию?***

**А.Хондрик, Минский район.**

Комментируя внесение в Госдуму России законопроекта о переходе на постоянное зимнее время, начальник отдела радиоэлектронных измерений Белорусского государственного института метрологии Александр Галыго заявил, что в Беларуси пока не планируют возвращаться к практике перехода на зимнее время.

По словам Галыго, в случае утверждения законопроекта в России изменится часовой пояс, он будет таким же, как в Беларуси. Пока официального извещения из России о необходимости согласования времени в Беларусь не поступало. *"Если никаких уведомлений не будет, то все останется по-старому*, — цитирует БелаПАН специалиста. — *У нас пока ничего не предусматривалось*".

Стоит отметить, что Белорусская железная дорога вслед за российской приостановила продажу билетов на поезда дальнего следования, которые отправляются после 26 октября. *"Продажи закрыты абсолютно на все поезда в связи с решением вопроса перевода времени на российской территории. Как только этот вопрос решат, продажи возобновятся",* — заявил заместитель начальника пассажирской службы БЖД Сергей Мацкевич.

ВОПРОС-ОТВЕТ

## 14% и 20 минут

*Доказывать реальную явку на выборах так же легко, как выигрывать выборы у этой оппозиции.*

Например, Чкаловский избирательный округ, участок №203, время 19.40, остается 20 минут, и я — единственный электорат в этом помещении.

Расписываюсь за бюллетень и просто фотографирую на мобильник, кто в моем доме уже выбрал себе депутата. Следите за руками... Вот вам пример, как перенаблюдать оппозицию.

Вот первая "домашняя" страничка — два десятка фамилий и... одна (!) подпись о получении избирательного бюллетеня.

Моя фамилия на второй страничке — там еще 21 фамилия, а я второй (!), кто сделал это сегодня, то есть получил бюллетень. Получил за 20 минут до окончания голосования. Еще трое соседей — досрочно в субботу.

Итого нас шестеро из 42 жителей. И остается 20 минут. Чудо случится....

По этим фото явка на парламентских выборах в моем доме составляет... 14,2%! Такое вообще бывает??? Правда, это не весь дом, но полтора подъезда из трех. И тут я дом свой зауважал! Особенный же дом! Мой дом не совпадает с районом, городом и страной в целом.

Вот вам итоговые результаты народного выбора на моем избирательном участке №93: проголосовали 1208 человек из 2092 избирателей (это 57,7%).

Что вполне соответствует явке в Чкаловском избирательном округе (58,9%), соответствует явке в Минске (59,2%) и категорически не соответствует тому, как проголосовал мой странный дом.

Теперь представьте, за минуты до окончания выборов на каждом таком избирательном участке одного округа фотографируем количество проголосовавших.... Впрочем, это слишком легко.

**Виктор МАЛИШЕВСКИЙ.**
*malishevsky.livejournal.com*





ТАКОЕ ЖЫЦЦЁ

# Завязіце мяне дадому

Казімір Лабаронак з невялікага гарадка Вікулічы (імёны людзей і назва населенага пункта зменены) аўдавеў вельмі рана, і многія мясцовыя развядзёнкі ды старыя дзеўкі, якія ніколі не былі замужам, спадзяваліся звязаць з ім свой лёс. А чаму ж не! Казімір быў прыгожы з выгляду, меў працавітыя рукі, добрую пасаду: працаваў намеснікам дырэктара аднаго з мясцовых прадпрыемстваў. Пасля працы і ў выхадныя дні шчыраваў на ўласнай сядзібе, дзе меў дагледжаны дом, агарод, невялікую пасеку. Кабеты то спадзяваліся, ды толькі Казімір Іванавіч з жаніцьбай не спяшаўся, і прычына для гэтага была важкая: у яго падрастала дачушка Ірачка, то бацька вельмі непакоіўся, што яна не прыме ў сваё маленькае сэрцайка, так бы мовіць, новую маму. Ды і наўрад ці знайшлася б такая, якая магла б замяніць яму любую Кацю, з якой сябравалі з юнацтва. Яна чакала яго з арміі, потым чакала, пакуль вучыўся ў інстытуце. Гэта была прыгожая і шчаслівая пара, ды толькі шчасцю таму быў наканаваны кароткі век.

— Чаму ты не жэнішся, Іванавіч? — не раз пытаў у яго сусед Валянцін Канапелька. — Лягчэй было б, а то ўсю і мужчынскую, і жаночую работу цягнеш на сваіх плячах.

— Можа, і лягчэй, хто ведае, — у роздуме казаў Лабаронак. — Ды я ўжо прывык усё рабіць сам. А неўзабаве Ірачка вырасце, памочніца будзе. Пражывём!

Так ён і не ажаніўся. Вырасла Ірачка, паступіла ў педагагічны інстытут. Калі атрымала дыплом, выйшла замуж за свайго аднакурсніка і засталася жыць і працаваць у Гродне.

Шчыра кажучы, у Іры не было і сотай долі таго клопату аб бацьку, што належыць. Ён усё жыццё, як кажуць, пылінкі з яе здзьмухваў, а яна... Нібыта і не ведала, што бацьку аднаму цяжка і агарод пасадзіць, і дагледзець яго, і бульбу восенню выкапаць. Як і раней, Казімір Іванавіч з усім спраўляўся сам.

Міналі гады... У Іры падрасталі два сыны-блізняты, але да дзядулі ў маленькі гарадок яна іх прывозіла рэдка, бо якія тут для малых забавы, нават атракцыёнаў няма. Толькі ў агародзе з дзедам корпайся, бо ён прымушаў палоць грады, рваць свінні траву. І калі аднойчы летам Віталік з Сашам наблізіліся да дзедавай пасекі, Сашу моцна ўджаліла пчала. Проста ў галаву. Імгненна запухлі вочы. Перапалоханы Казімір Іванавіч на старэнькіх "Жыгулях" завёз яго ў бальніцу. Ехаў і амаль дарогі не бачыў ад страху за хлопчыка і роспачы: не дапільнаваў, не дагледзеў... Ведаў, што цяпер дачка ніколі не даверыць яму ўнукаў.

І хоць дактары запэўнілі дзеда, што ўнук хутка паправіцца, што небяспекі няма, ён усё роўна некалькі дзён быў у вялікім стрэсе. Пасля гэтага выпадку ў яго пачало балець сэрца. Горыч і крыўда запаўнялі душу, бо Іра катэгарычна адмовілася адпраўляць унукаў да яго на восеньскія канікулы. Казала, што кепска ім у дзеда. А хіба ж ён не стараўся, каб было як мага лепш?

І ўсё ж дзед здолеў укінуць у душы ўнукаў добрае зярнятка працавітасці, любові да прыроды. Калі сталі дарослымі, то яны самі прыязджалі ў гарадок і з ранку да вечара корпаліся на сядзібе, што называецца, не ганялі сабак, як многія іхнія равеснікі. Асабліва цягнуўся да сялянскай работы Саша, якому некалі дасталося ад пчол. Больш таго, ён і вучыцца пайшоў у Сельскагаспадарчую акадэмію, каб потым працаваць на зямлі. Віталік выбраў для сябе прафесію вайскоўца, чым таксама парадаваў дзеда: сапраўдная мужчынская справа.

Пасля заканчэння акадэміі Сашу, як выдатніку вучобы, было прадастаўлена права самому выбіраць месца работы. І ён, не вагаючыся, выбраў той раён, дзе жыў дзед. Акурат у адной з гаспадарак, што непадалёку ад райцэнтра, нядаўна арганізавалі пасеку, і хлопец быў вельмі задаволены гэтым.

Радаваўся і Казімір Іванавіч: хоць на старасці гадоў не будзе адзінокі. Можа так стацца, што неўзабаве Саша ажэніцца, і ён будзе забаўляцца з праўнукамі, вучыць іх усяму, што ўмее сам.

Аднак ніхто не ведае свайго лёсу. І ажаніўся Саша, і сынок у яго нарадзіўся, а ў Казіміра Іванавіча здарыўся сардэчны прыступ. Спачатку паклалі ў раённую бальніцу, потым перавялі ў абласную. Больш за месяц праляжаў там, а калі дактары выпісвалі яго, то папярэдзілі: ніякіх фізічных нагрузак, ніякіх стрэсаў. Толькі спакой. Іра не павезла яго ў родны гарадок, а пакінула ў Гродне, выдзеліўшы ў чатырохпакаёвай кватэры, што дасталася мужу ад яго бацькоў — абласных начальнікаў, маленькі пакойчык. Кватэра была на трэцім паверсе, ліфта ў доме не было, і стары хворы чалавек не мог самастойна выйсці на вуліцу, а дапамагаць яму ў гэтым ні дачка, ні зяць не хацелі. Калі яны адпраўляліся на работу, ён плакаў ледзь не ўголас, успамінаючы свой утульны дом, двор з зялёнай траўкай, сад і пасеку. У снах ледзь не кожную ноч бываў там і адчуваў сябе такім шчаслівым... А калі прачынаўся, то было такое ўражанне, што правальваўся ў чорную глыбокую яму...

— Завязіце мяне дадому, — не раз прасіў у дачкі і зяця.

— А хіба табе тут дрэнна? Сядзіш на ўсім гатовым...

— Не тое што дрэнна. Мне тут невыносна!

Аднойчы ў нядзелю, калі дачка з зяцем пайшлі ў госці, Казімір Іванавіч пазваніў дадому. Трубку ўзяла ўнукава жонка Зіна.

— Зіначка, мілая, хоць вы з Сашам завязіце мяне дадому... Уся душа збалелася па родным куточку. Як там сад, агарод, пчолкі мае?

— Да якога дому, дзед?! У тваім агародзе ўжо даўно газонная траўка расце. Сад стары быў, то мы яго таксама выкарчавалі і траўкай засеялі, паставілі альтанку. Там з сябрамі збіраемся на шашлыкі. Пчол таксама няма. Саша табе нічога не казаў, а я кажу праўду. Ды потым.. у мяне ж дзіця малое. Мікітку ўсяго тры гадкі. А тут яшчэ цябе даглядай...

— То ён жа, Іра казала, у дзіцячы садок ходзіць...

— Ну дык і што? Усё роўна з малым клопатаў шмат. Мне Саша казаў, што ты хочаш вярнуцца, але я паставіла яму ўмову: або я, або дзед!

Казімір Іванавіч паклаў трубку і доўга сядзеў у задуменні. З таго дня ён перастаў есці, страціў усякую цікавасць да жыцця. І аднойчы ясным вераснёўскім днём яго душа паляцела ў любы сэрцу куточак, а назаўтра за ёй павезлі і цела, каб пакласці ў зямлю побач з бацькамі і любай Кацяй.

Толькі так ён змог нарэшце вярнуцца дадому...

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ.**

*Дзятлаўскі раён.*

*Рэдакцыя газеты "Народная Воля" выказвае глыбокае спачуванне пазаштатнаму карэспандэнту **Леанардзе Станіславаўне ЮРГІЛЕВІЧ** з прычыны вялікага гора — смерці мужа **Івана Фёдаравіча**.*

ЧУЛІ?

## Турыстаў пусцяць у падзямеллі Нясвіжскага замка

*Новую экскурсійную праграму збіраюцца прапанаваць турыстам Нясвіжскага палацава-паркавага ансамбля — шпацыр па падзямеллі.*

Працягласць адрэстаўраванага падземнага хода, які стане адным з самых каларытных аб'ектаў маршруту, складае каля 50 метраў. Новая экскурсія па абарончых збудаваннях замка зойме 45 хвілін.

*"Праход быў і раней, проста ў яго не пускалі турыстаў. Акрамя таго, экскурсія па ім патрабуе прысутнасці спецыялістаў",* — цытуе belta.by дырэктара Нясвіжскага замка Сяргея Кліmава.

За час рэканструкцыі будаўнікам удалося выявіць новыя калектары, камунікацыі, студні, а таксама два падземныя хады. Цяпер падземныя збудаванні гатовы да прыёму наведвальнікаў.

У гэтым годзе супрацоўнікі палацава-паркавага ансамбля не скардзяцца на недахоп турыстаў і нават кажуць аб ажыятажным попыце. За 9 апошніх месяцаў замак наведалі 290.000 турыстаў. Усяго ж, па разліках спецыялістаў, комплекс зможа прыняць да 500 тысяч турыстаў у год. Калі больш — узнікне небяспека для экспанатаў. У сувязі з гэтым у Нясвіжы ўжо задумаліся аб увядзенні абмежаванняў на наведванне помніка архітэктуры.

